

# Залеская талака

Інфармацыйны бюлетэнь Залескага сацыяльна-дзелавога цэнтра ГА "Сяльчанка" Смаргонскага р-на / №10 (28) /2013

**Паважаныя жыхары Залесся!**
**Дарагія землякі!**

Шчыра віншуем вас з Калядамі і Новым годам!
Жадаем вам у 2014-м годзе моцнага здароўя і поспехаў ва ўсіх справах, добрага настрою і ладу ў сям'і, любові і павагі адно да аднаго!
Дзякуй за тое, што вы былі разам з намі ўвесь прамінулы год і падтрымлівалі ў важных для ўсяго Залесся справах!

**ГА «Сяльчанка» Смаргонскага раёна і сайт Zalesse.by**



## За ўстойлівае развіццё сельскіх тэрыторый!




Пярвічная арганізацыя "Сяльчанка" ГА "Беларускі саюз жанчын" пры падтрымцы Смаргонскага райвыканкама нядаўна ладзілі форум "Сельскія рэгіёны – магчымасці для развіцця бізнеса і творчай ініцыятывы моладзі". У ім бралі ўдзел прадстаўнікі дзяржаўных і грамадскіх арганізацый, бізнесмены, старшыні сельскіх Саветаў, эксперты, творчая моладзь. На форуме прысутнічалі вядомыя і вопытныя ў нашай рэспубліцы прадпрымальнікі Сяргей Найдовіч, Эдуард Вайцяховіч, Аляксандр Сінкевіч. Абмяркоўваліся магчымасці развіцця дзелавога і творчага патэнцыялу маладых жыхароў раёна, а таксама роля грамадскасці ў рэалізацыі стратэгіі ўстойлівага развіцця рэгіёна.

Адкрыў форум намеснік старшыні райвыканкама Генадзь Бычко. Адзначыўшы, што 2015 год Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь прапанаваў абвясціць Годам моладзі, выступоўца засярodзіў увагу на тым, што ў нашым раёне ёсць шмат магчымасцей для развіцця бізнесу і ўдзелу маладых у агульнакарысных справах. Ён выказаў спадзяванне, што мерапрыемства будзе карысным і дасць адказ на многія пытанні прысутнай моладзі ў плане таго, як і чым заняць сябе, каб была карысць і ўласная, і грамадская.

Праблемам і перспектывам дзелавой і творчай ініцыятывы, станаўленню малога і сярэдняга бізнесу і актыўнаму ўдзелу ў гэтай справе моладзі былі прысвечаны выступленні прадстаўнікоў цэнтра падтрымкі і развіцця прадпрымальніцтва ў Смаргоні і аддзела па рабоце з моладдзю. Дырэктар міжнароднага фонду развіцця сельскіх тэрыторый Сяргей Тарасюк, узяўшы слова, адразу пракаменціраваў выступоўцаў, параіўшы не абмяжоўвацца кансультацыйнымі паслугамі, а актыўна ўдзельнічаць у напісанні бізнес-планаў, правядзенні семінараў, пошуках банкаўскіх фінансавых рэсурсаў.

Як заўжды цікавым і пераканаўчым была прэзентацыя дырэктара Цэнтра развіцця сельскага прадпрымальніцва з Камарова Эдуарда Вайцяховіча. Навучанню школьнікаў асновам прадпрымальніцтва на прыкладзе першых крокаў дзейнасці школьнай бізнес-кампаніі было прысвечана выступленне Валянціны Шыпілавай, намесніка дырэктара "ВПК Залескі яслі-сад — сярэдняя школа".

Са справаздачай аб прагрэсе рэалізацыі стратэгіі ўстойлівага развіцця вёскі Залессе ў межах праграмы "Мясцовая павестка-21" апавядала старшыня пярвічнай арганізацыі "Сяльчанка" Беларускага саюза жанчын Ала Шыцікава. Зыходзячы з мясцовых магчымасцей, ініцыятыўная група напачатку сваёй дзейнасці вызначыла галоўным кірункам развіццё турызму ў Залессі. Таму фарміраванне прыцягальнага іміджу гэтай мясцовасці стала важнай задачай мясцовай лучнасці як прадстаўнікоў улад, так і актывістаў-жыхароў. Дасягнута ці не галоўная мэта ўсяго праекта – перамена ў адносінах людзей да ўдзелу ў рашэнні мясцовых праблем.

Паспяхова працуюць новыя грамадскія аб'яднанні, створаны сельскі сацыяльна-дзелавы цэнтр "Залеская талака", праведзены шматлікія семінары па вывучэнні вопыту стварэння турыстычных кластараў і дзейнасці грамадскіх саветаў. Ініцыіравана стварэнне арганізацыйнай структуры – грамадскага савета па развіцці агратурызму ў Смаргонскім раёне. Распрацаваны гісторыка-культурны турыстычны маршрут па Залессі, створана карта-навігатар і ўстаноўлены стэнд з картай у цэнтры вёскі. Многія мясцовыя жыхары ўдзельнічалі ў мерапрыемствах, што ладзіліся мясцовымі і рэспубліканскімі грамадскімі арганізацыямі па пытаннях развіцця турызму. Істотная падтрымка аказана сярэдняй школе пры стварэнні першай у раёне школьнай бізнес-кампаніі з турыстычным профілем.

Цікавыя і карысныя для прысутных выступленні падрыхтавалі эксперт па стратэгічным планаванні экатурызму Галіна Мацюшэнка і аўтар медыя-прэзентацыі інтэрнэт-вітрыны Аляксандр Сінкевіч, якія апавядаў пра сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі ў дзелавой кластарнай кааперацыі. Свае прапановы па стварэнні бізнес-кампаніі выказаў дырэктар політэхнічнага ліцэя Рыгор Удальеў.

**Ала Страшынская, «Светлы шлях»**
**Фота аўтара**

# Заняткі польскай мовай



У залескіх жыхароў з'явілася магчымасць бясплатна вывучаць польскую мову. Гэта адбываецца дзякуючы конкурсу, які выйграла ГА "Сяльчанка" Смаргонскага раёна. Ідэя вывучаць мову суседзяў з'явілася ў "сяльчанак" пасля паездкі ў Люблін ды ўдзелу ў міжнародным фестывалі "Open city", дзе жыхаркі Залесся разам з палякамі і ўкраінцамі стварылі новы грамадскі парк.

І цяпер у нашай вёсцы польскай размоўнай мовай пачалі займацца "вучні" розных узростаў і прафесій. Моладзь, людзі сярэдняга ўзросту і пенсіянеры розных узростаў! Дапамагае паліглотам-пачаткоўцам настаўнік вышэйшай катэгорыі Таццяна Іванаўна Кляшчонак. У кожнага ёсць свае мэты і планы пры вывучэнні польскай мовы. У кагосьці, напрыклад, з дзяцінства была мара вывучыць польскую, а хтосьці хоча карыстацца ёй у падарожжах. Запрашаем далучацца ўсіх жадаючых! Заняткі праходзяць у будынку сельскага савета па нядзелях (з 12 да 15 гадзін).

**Дар'я Ліс**

# Падарожжа да помнікаў культуры

Восем гадзін раніцы. Экскурсанты хуценька запоўнілі аўтобус… Нас было 24 чалавекі – пенсіянеры і жанчыны больш маладога ўзросту.

Напрамак трымалі ў Астравецкі раён, да святынь і помнікаў культуры - касцёла Святой Троіцы ў мястэчку Гервяты і касцёла святога Міхаіла Архангела ў Міхалішках.

І вось перад намі паўстаў будынак гервяцкага касцёла, які ўразіў нас сваёй веліччу і вострымі гатычнымі шпілямі, што імкнуцца ўвысь… Касцёл бесперапынна дзейнічае з 1903 года. Не меншай цікавасцю для нас было і ўнутранае ўбранства: арганы, амвон, дубовы іканастас, абразы і мноства жывых кветак – ружы, лілеі, хрызантэмы… Гутарыў з намі прыслужнік ксяндза Віктар, ён жа стварае прыгажосць і вакол святыні: рэдкія расліны, якім нададзены розныя формы, кветкі, дарожкі, альтанкі. Словамі не апісаць – гэта трэба бачыць! І такая чысціня ды цішыня навокал, што нельга прыгажосць парушыць. "Прыгожа – значыць, свята!" – заўважыў нехта з каталіцкіх вернікаў-экскурсантаў.




Далей напрамак наш ляжаў да касцёла Міхаіла Архангела ў Міхалішках, што быў пабудаваны ў 1653 годзе на руінах старога драўлянага касцёла. Вызначаецца ён знешняй выкшталцонасцю архітэктуры і багаццем унутранага ўбранства ў стылі барокка. Усё гэта створана італьянскімі майстрамі, якім дапамагалі мясцовыя будаўнікі. Фундатарамі будоўлі былі прадстаўнікі заможнага графскага роду Бжэстоўскіх, якія валодалі Міхалішкамі з 1604 года.

Будынак касцёла светлы як звонку, так і ўнутры. Знешні выгляд яго сціплы – баракавы фасад з двума невысокімі вежамі, паўкруглым прытворам і вялікімі вокнамі. Унутранае ўбранства храма кажа пра яго велічнасць, дзякуючы гэтаму ён названы "перлінай віленскага барока". Экскурсанты заўважылі, што прыгажосць і велічнасць надае храму і барэльеф са скульптурамі дванаццаці апосталаў, ствараючых уражанне руху.

Вельмі цікава і змястоўна распавядаў нам пра гісторыю касцёла Міхаіла Архангела святар. Нават паказваў рэліквіі - старажытны абраз, рукапісныя кнігі рэгістрацыі народжаных і памерлых, якія захоўваюцца тут з 1670 года. Уразілі нас і адносіны вернікаў, мясцовых жыхароў да захавання гістарычнай спадчыны, архітэктуры. Адзін з прыкладаў. У ліпені 1944 года нямецкія самалёты бамбілі Міхалішкі і драўляны мост праз раку Вілію – загарэўся касцёл. Пажар знішчыў страху і драўляныя элементы ўнутры памяшкання. Людзі, каб захаваць прыгажосць барэльефаў, статуй, абразоў за адзін месяц перакрылі страху саломай, якую знялі са сваіх гаспадарчых пабудоў.

Мы звяртаемся да ўсіх, хто не бачыў прыгажосці Гервятаў і Міхалішак… Варта выкраіць час і зазірнуць у гэтыя цудоўныя мясціны! Варта таксама заехаць у Жупраны ды Гавуці, на якія мы зірнулі толькі краем вока: на экскурсіі ўжо не хапала часу…

Пра экскурсіі ў Гервятах можна дамовіцца па тэлефоне + 375 29 9457926 (прыслужнік ксяндза Віктар). Мы, члены ініцыятыўнай групы Чырвонага Крыжа і ГА "Сяльчанка" Смаргонскага раёна, шчыра дзякуем за фінансаванне паездкі абласной арганізацыі Беларускага Таварыства Чырвонага Крыжа, а таксама кіраўніку ГА "Сяльчанка" Смаргонскага раёна Шыцікавай Але Мікалаеўне за клопаты аб арганізацыі гэтай паездкі.

**Па даручэнні экскурсантаў**
**напісала Радзіёнава Кіра Канстанцінаўна**

**Фота Марыі Зенкевіч**
**Больш фота - на сайце Zalesse.by**

Заснавальнік ГА "Сяльчанка" Смаргонскага р-на / адрас:в.Залессе, вул. Чыгуначная. Гал. рэдактар Дар'я Ліс, тэл. для сувязі +375296553013 www.zalesse.by
250 асобнікаў, распаўсюджваецца бясплатна.